АЛІМПІЯДА-2018

# Да сустрэчы ў Кітаі!

*У мінулую нядзелю ў паўднёвакарэйскім Пхёнчхане завяршыліся зімовыя Алімпійскія гульні.*



Ва ўрачыстай цырымоніі афіцыйнага закрыцця Алімпіяды бралі ўдзел каля двух тысяч чалавек. Сцяганосцам беларускай каманды была **Дар'я Домрачава**, і гэта справядліва. На Гульнях беларуская спартсменка заваявала два медалі – "золата" ў эстафетнай гонцы і "серабро" ў мас-старце. Такім чынам, па колькасці залатых алімпійскіх медалёў яна выйшла сярод біятланістак на першае месца ў свеце!

Увогуле ж, спартсмены зборнай Беларусі занялі 15-е месца ў неафіцыйным медалёвым заліку, заваяваўшы два залатыя і адзін сярэбраны медалі.

Усяго ў спаборніцтвах бралі ўдзел атлеты з 92 краін, якія разыгралі 102 камплекты ўзнагарод у 15 відах спорту.

Для беларускіх алімпійцаў гэтыя Гульні сталі 13-мі ў суверэнай гісторыі (6 летніх і 7 зімовых). Усяго з 1994-га па 2018 год беларусы заваявалі 18 медалёў: 8 залатых, 5 сярэбраных і 5 бронзавых.

А наступным гаспадаром Алімпіяды ў 2022 годзе будзе кітайская сталіца Пекін. Да сустрэчы!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### Медалёвы залік

| Краіна | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1.Нарвегія | 14 | 14 | 11 | 39 |
| 2.Германія | 14 | 10 | 7 | 31 |
| 3.Канада | 11 | 8 | 10 | 29 |
| 4. ЗША | 9 | 8 | 6 | 23 |
| 5.Галандыя | 8 | 6 | 6 | 20 |
| 6. Швецыя | 7 | 6 | 1 | 14 |
| 7.Паўднёвая Карэя | 5 | 8 | 4 | 17 |
| 8.Швейцарыя | 5 | 6 | 4 | 15 |
| 9.Францыя | 5 | 4 | 6 | 15 |
| 10.Аўстрыя | 5 | 3 | 6 | 14 |
| 11.Японія | 4 | 5 | 4 | 13 |
| 12.Італія | 3 | 2 | 5 | 10 |
| 13. Расія | 2 | 6 | 9 | 17 |
| 14.Чэхія | 2 | 2 | 3 | 7 |
| **15.БЕЛАРУСЬ** | **2** | **1** | **0** | **3** |
| 16.Кітай | 1 | 6 | 2 | 9 |
| 17.Славакія | 1 | 2 | 0 | 3 |
| 18.Фінляндыя | 1 | 1 | 4 | 6 |
| 19.Вялікабрытанія | 1 | 0 | 4 | 5 |
| 20.Польшча | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 21.Венгрыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 22.Украіна | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 23.Аўстралія | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 24.Славенія | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 25.Бельгія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 26.Іспанія | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 27.Новая Зеландыя | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 28.Казахстан | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 29.Латвія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 30.Ліхтэнштэйн | 0 | 0 | 1 | 1 |

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Мікалай КАЗЕКА: «Калі б вынес нагой дзверы, то ацэнкі не змяніліся б…»

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле пракаментаваў "Народнай Волі" выступленне на Алімпіядзе беларусаў, а таксама ўспомніў пра судзейскую прадузятасць.*




Гэта ўжо традыцыя – беларускія фрыстайлісты без медалёў з Алімпіяды не вяртаюцца. Праўда, сёлетнія Гульні для каманды Мікалая Іванавіча Казекі бы тая палка – з двума канцамі.

З аднаго боку, **Ганна Гуськова** сенсацыйна заваявала "золата", у той час, калі на такі вынік асабліва ніхто і не разлічваў. З другога – усіх шакіравала, калі суддзі не пусцілі ў фінал алімпійскага чэмпіёна **Антона Кушніра**. Вердыкт быў аднзначны – засудзілі!

**– Пасляалімпійскія эмоцыі ўжо прайшлі?** – пытаюся ў галоўнага трэнера.

– Так, і па вялікім рахунку я ацэньваю рэальнае выступленне каманды як вельмі добрае. Што б ні казалі, а залаты медаль дорага каштуе. А ўсё астатняе ў нашым відзе спорту – чыстай вады суб'ектывізм. З нечым мы можам змагацца, штосьці змяніць пакуль немагчыма. Хаця гэтаму, безумоўна, трэба аргументавана супрацьстаць і нейкім чынам прасоўваць свой пункт гледжання, які лічым правільным.

**– Многія прагназавалі медаль для Антона Кушніра на гэтай Алімпіядзе. Ці была ў беларуса магчымасць узняцца на п'едэстал? Альбо суддзі загадзя спланавалі акцыю па "ліквідацыі" Антона?**

– У спорце і ў гісторыі ўмоўнага ладу не бывае. Таму маем тое, што маем. Іншая справа, што мы і на самай справе ехалі змагацца за самыя высокія месцы. І Антон Кушнір быў да гэтага гатовы.

**– Што ён збіраўся паказаць у фінале, калі б туды патрапіў?**

– Калі ідзе тактычная барацьба, то рашэнне я прымаў бы па абставінах. Але навошта зараз дзяліць шкуру незабітага мядзведзя? Усе мы бачылі, што Антона засудзілі.

**– А чаму вы не "вынеслі нагой дзверы" ў судзейскую будку, як гэта прапаноўвалі вам зрабіць былы фрыстайліст і алімпійскі чэмпіён Аляксей Грышын? Маўляў, трэба быць больш прынцыповым і нахабным, і тады суддзі маглі б перагледзець сваё рашэнне…**

– Лёша, мабыць, не ведаў, што я фактычна так і паступіў. Натуральна, справа не дайшла да таго, што я ў прамым сэнсе выбіваў дзверы да суддзяў, але апошнія двойчы былі запрошаны для таго, каб змяніць ацэнкі. На жаль, тры суддзі праігнаравалі такія прапановы і проста адмовіліся рабіць нейкія целарухі, каб вынесці справядлівае рашэнне. Таму нагой ацэнкі не зменіш.

**– Нашы фрыстайлісты – рэгулярныя прызёры і пераможцы Гульняў. Чаму ў такім выпадку на Алімпіядах мы не бачым беларускіх суддзяў?**

– Каб атрымаць алімпійскае прызначэнне, трэба, каб яго зацвердзіла Міжнародная лыжная федэрацыя. І тут ад нас наогул нічога не залежыць. Мы рыхтуем суддзяў, яны ўдзельнічаюць у спаборніцтвах самага высокага ўзроўню. Быў, напрыклад, беларускі суддзя на чэмпіянаце свету, на этапе Кубка свету… А вось на Алімпіяду не бяруць. У іх з гэтай нагоды, вобразна кажучы, свае ўнутраныя спаборніцтвы праходзяць.

**– Мікалай Іванавіч, ці моцна вы расстроіліся, калі Антона Кушніра не пусцілі ў фінал?**

– Шчыра кажучы, я наогул не зразумеў, чаму так адбылося. І, натуральна, станоўчых эмоцый мне гэта не дадало. Дзень быў сапсаваны.

Але трэба разумець, што гэта – усяго толькі спорт, жыццё тут не заканчваецца. Як кажуць, усё, што не забівае, робіць нас мацнейшымі.

**– Для Алы Цупер гэта была ўжо шостая Алімпіяда, для Антона Кушніра – чацвёртая. Ці працягнуць яны выступленні?**

– Днямі ў нас будзе агульны збор каманды, там, магчыма, і вызначымся – куды і з кім будзем рухацца далей…

**Алесь СІВЫ.**




ЛЮБОПЫТНЫЕ ФАКТЫ

## Нитраты в овощах

* **Салат** относится к овощам с высоким накоплением нитратов. Поэтому под него не следует вносить азотных удобрений больше рекомендованных норм. Лишь на бедных почвах допустимы одна ранняя подкормка в фазе двух листьев мочевиной не более 4 г/м², но по возможности подкормку азотом лучше не проводить. Больше азота содержится в стеблях и черешках листьев. Перед потреблением эти части необходимо опустить в воду не менее чем на 1 час. При этом содержание нитратов в продукте уменьшается на 20%.

* **Огурец** может накапливать нитраты, концентрирующиеся (до 70%) в кончиках, хвостике и кожице плодов. При приготовлении детских блюд и салатов эти участки следует срезать. С плодов, предназначенных для соления, кожицу не снимают, но после сбора их вымачивают 3–5 часов в воде. При солении и консервировании из зеленцов удаляется 20% и более нитратов, но рассол в этом случае в питании использовать нельзя.

* **Капуста** относится к группе овощей со средним накоплением нитратов. Максимальная концентрация нитратов наблюдается в кочерыжке и окаймляющих ее листьях. В наружных листах кочана их в два раза больше, чем в середине. Нитратонакапливающие части кочана используют в пищу после кипячения, соления, консервирования, во время которых соли азотистой кислоты разрушаются на 20–40% (после семи дней квашения – до 100%). Для приготовления детских, диетических блюд и салатов из свежей капусты используют только серединную часть кочана.

* **Листья лука-шалота** могут накапливать нитраты. Поэтому подкармливают его один раз на ранней стадии развития навозной жижей (1:8), или раствором удобрительных смесей «Рост-1», «Стимул-1» (25–30 г на 10 л воды), или раствором мочевины (10 г на 10 л воды) с расходом на 10 м². На плодородных почвах и при внесении осенью органических удобрений не подкармливают. Поливают в сухой сезон 1–3 раза по 15–20 л/м², рыхлят 2–3 раза, как правило, после поливов, обильных дождей.

УЧЕНЫЕ СЧИТАЮТ

## Какая картошка вкуснее?

Вы не замечали, каким спросом пользуется на рынке картофель с розовым или лиловым оттенком кожуры? Некоторые полагают, что «цветная» картошка – самая полезная. Но так ли это?

Что в действительности определяет вкус и питательную ценность картофеля? В своей работе селекционеры уделяют внимание не только урожайности сорта и устойчивости к болезням, но и качеству клубней.

Интересно, что содержание в картофеле важных для человека витаминов А и $B_2$ связано с окраской мякоти клубня. Их больше в желтомясых сортах. А вот вкус картофеля не связан с окраской мякоти, он определяется его биохимическим составом – свободными аминокислотами, липидами, сахарами, мононуклеотидами и каротиноидами, которые в организме человека и животных превращаются в витамин А. Кроме того, в желтомясых сортах содержится пигмент рибофлавин (витамин $B_2$). Содержание этих веществ в картофеле не очень высокое, тем не менее они служат дополнительным источником витаминов А и $B_2$.

Витамина $B_2$ на 100 г сырой массы картофеля приходится 75–200 мг у желтомясых клубней и лишь 35–66 мг – у беломясых. Съев за день 300 г картофеля, вы компенсируете только 5–10% суточной потребности в витамине $B_2$.

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Появляются поросята с туго закрученными хвостиками…

По-особому приходят опоросы у свиньи. У нее не один-два детеныша рождаются и даже не три, а десяток, а то и больше. И все они должны появиться на свет крепкими, здоровыми, с туго закрученными хвостиками.

Опорос обычно длится 1–3 часа. Первенцу быстро обтирают нос и рот от слизи, чтобы скорее вздохнул, отрезают пуповину, обрабатывают йодом. Если ранка продолжает кровоточить, перевязывают продезинфицированной суровой ниткой.

Пока поросята родятся, лучше не уносить их в дом, а сажать в ящик на виду у матери. Не дожидаясь окончания опороса, хорошо бы подложить малыша к соску вымени. И так надо поступать с каждым поросенком. Во-первых, они скорее получат необходимое для выживания молозиво, во-вторых, у матки быстрее завершатся роды и не задержится выход последа.

Если какой-то из поросят родился без признаков жизни, после того как ему освободят от слизи нос и рот, нужно слегка похлопывать его ладонью по бокам и ляжкам, сгибать и разгибать передние ножки. Затем, держась за них и за головку, опустить на 3–5 минут в ведро с теплой водой (40–41°С), но так, чтобы вода не попала в нос и рот. Как только поросенок задышал, вскрикнул – ожил, обтирают полотенцем или мягкой мешковиной насухо и сажают к другим поросятам в ящик.

Если малыш еще не сумел овладеть соском, пусть немного отдохнет, а потом опять приложите его к вымени и снова – в ящик.



**Валентина ПОЛУШКИНА.**

*г.Рогачев.*

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Ожила земляника

На одном месте, очень сыром, у меня растет лет десять земляника. Первые годы я ухаживала за каждым кустиком, так как считала, что от этого многое зависит. Весной обрезала старые листья, рыхлила землю, подкармливала растения, полола. Через два года пересаживала и один год оставалась без урожая.

Последние четыре года кустики растут без особого внимания и плодоносят ежегодно. Уход теперь заключается в следующем.

После схода снега весной листву убираю граблями. Делаю это аккуратно, не дергаю кусты. Листья собираю в кучи, сжигаю. Нагреваю воду до 70–80 градусов, добавляю марганцовку до темно-розового цвета и поливаю из лейки кусты в двух направлениях. На одном месте лейку не задерживаю.

Как только появляются бутоны, осматриваю растения. Если есть приподнятые кусты и те, на которых нет бутонов, вырываю с корнем, а под все остальные укладываю солому – чтобы ягоды были чистыми и не поражались соломой.

Через одну-две недели после сбора урожая в междурядья и под кусты рассыпаю золу и перекапываю междурядья вместе с соломой. Кусты засыпаю небольшим слоем компоста или перегноя. Солома перегнивает, и земля становится рыхлая, мягкая.

Теперь у меня уход за земляникой простой, и я каждый год с урожаем.

**Ольга ШАМШУР.**

*г.Барановичи.*

КРЫЖАВАНКА



## Дабрыня – гэта сонца

**Па гарызанталі:** 2.Добрая … два вякі жыве (прык.). 6.Добрае … жалезныя вароты адчыніць (прык.). 8. … і сумленне – родныя сёстры (прык.). 9.Добраму чалавеку … рады (прык.). 12.Вострая прыправа да ежы. 13."Цешыцца … з калінаю, // Скінуўшы зімнія чары" – з верша Я.Купалы "Явар і каліна". 14.Пахвала, адабрэнне. 15.Рака на Гомельшчыне, левы прыток Прыпяці. 16.Не кайся, … ўстаўшы і маладым ажаніўшыся (прык.). 17.Сэрца весяліцца, і … цвіце (прык.). 18.З добраю жонкаю і … сумленны (прык.). 20.Вялікая металічная пасудзіна. 22. … – то дар багоў (прык.). 24.Добрая … пад лаўкай ляжыць, а дрэнная па дарожцы бяжыць (прык.). 25.Прыгажосць, краса. 26."Ва ўнутраным свеце чалавека дабрата – …" (В.Гюго). 27. … горы разбівае (прык.). 28."Хто бярэ – напаўняе …, хто аддае – напаўняе сэрца" (Лао-цзы).

**Па вертыкалі:** 1."Любоў да бацькоў – … ўсіх дабрачыннасцяў" (Цыцэрон). 3.Добрай справе – добрая … (прык.). 4.Прыемны пах. 5.Прыбаўка. 7.Цвёрды мінерал. 8.Што праўда, то не … (прык.). 10.Тры рэчы выклікаюць любоў: вера, … і шчодрасць (прык.). 11."… – прызванне чалавека" (Веерт). 17.Вадзіцель таксі. 19.Добры чалавек (разм.). 21.Дабро не … – ходзіць ціха (прык.). 22.Добраму чалавеку і чужая хвароба да … (прык.). 23.Касцюм танцоўшчыцы балета з разрэзам па баках. 24.Гасцям – …, а коням – слуп (прык.).

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

**Адказы**

**Па гарызанталі:** 2.Справа. 6.Слова. 8.Гонар. 9.Гаспадар. 12.Воцат. 13.Явар. 14.Хвала. 15.Іпа. 16.Рана. 17.Твар. 18.Муж. 20.Кацёл. 22.Смех. 24.Слава. 25.Хараство. 26.Сонца. 27.Ласка. 28.Далоні.

**Па вертыкалі:** 1.Аснова. 3.Песня. 4.Водар. 5.Прыдача. 7.Агат. 8.Грэх. 10.Сціпласць. 11.Пацалунак. 17.Таксіст. 19.Дабрак. 21.Ліха. 22.Сэрца. 23.Хітон. 24.Стол.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18017

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 27.02.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 574.